# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 50 (252) | ГОД VI | БЕЛАСТОК 10 СНЕЖНЯ 1961 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

## ПЛЁННАЙ ПРАЦЫ

**У сувязі з III-ім акруговым з'ездам ЗБОВіД у Беластоку мы звярнуліся да сакратара акруговага праўлення гэтай арганізацыі ў Беластоку таварыша Аляксандра Гуцянцова.**



— Арганізацыя наша на Беласточчыне дзейнічае ад 1947 года, — сказаў таварыш Гуцянцоў. — Зараз ЗБОВіД на Беласточчыне налічвае 4 637 членаў. Павятовыя праўленні ЗБОВіД існуюць ва ўсіх паветах Беласточчыны апрача Дубровы.

**— Каго гуртуе ў сваіх радах ЗБОВіД?**

— Арганізацыя наша, як сама назва гаворыць, гуртуе былых барацьбітоў за свабоду і дэмакратыю. У яе радах ветэраны рэвалюцыйнага руху з 1905 і 1917 гадоў, байцы Іспанскай рэвалюцыі з 1936 года, так званыя «Дамбраўшчакі», палітычныя вязні санацыйных і гітлераўскіх казаматаў, удзельнікі руху супраціўлення ў гадах фашысцкай акупацыі, былыя салдаты Савецкай Арміі і Польскага войска, былыя савецкія і польскія партызаны, якія змагаліся з гітлераўскімі захопнікамі, а таксама ўдзельнікі барацьбы з рэакцыйным падполлем у першыя гады вызвалення.

**(Працяг на стар. 4)**

## НІВОДЗІН ГЕКТАР НЕ ПАВІНЕН МАРНАВАЦЦА

У дакладзе палітбюро на IX Пленум Цэнтральнага Камітэта ПАРП адно з важнейшых месц займае справа далейшага развіцця сельскай гаспадаркі.

Дасягненні, якія атрымала сельская гаспадарка краіны за першы год рэалізацыі бягучай пяцігодкі, ствараюць вельмі аптымістычныя перспектывы і на далейшыя гады.

Бягучы год характэрны развіццём усіх асноўных галін сельскагаспадарчай вытворчасці. Прадбачваецца, што вартасць валавой сельгасвытворчасці ў гэтым годзе будзе на 8,3 прац. большая ў параўнанні з мінулым годам. Гэта на 4 прац. больш, чым было прадбачана пяцігадовым планам. Сёлета атрымана ў нас высокія ўраджаі. Ураджай чатырох асноўных збожжавых культур у сярэднім склаў 17,9 цэнтнераў з гектара. Гэта на 1,8 цэнтнераў больш чым у мінулым годзе.

Прадбачваецца, што вытворчасць мяса ў гэтым годзе ўзрасце на 8,5 прац. у параўнанні з мінулым годам. Пагалоўе жывёлы за апошні год павялічылася на 465 тысяч штук. Гэта найбольшы гадавы прырост за апошнія 10 год.

За апошні час назіраецца рэзкае памяншэнне колькасці коней. Сёлета пагалоўе коней абніжылася на 72 000 штук. Дасягненні гэтыя, як падкрэсліваецца ў дакладзе, атрымана не выпадкова.

У сельскай гаспадарцы значна ўзрасла колькасць выкарыстання мінеральных угнаенняў. Пад сёлеташнія пасевы выкарыстана іх у сярэднім па 52 кілаграмы на 1 гектар. Значна ўзрасла і механізацыя сельскай гаспадаркі. Толькі ёлета сяляне атрымалі 13 200 трактараў, 8 тысяч снапавязалак, звыш 11 тысяч малацілак, 30 тысяч капалак і 15 тысяч электрычных і ропных рухавікоў. Агульная вартасць гэтых машын складзе 4 мільярды 20 мільёнаў злотых. Гэта на 440 мільёнаў злотых больш, чым у мінулым годзе.

Дзяржава штогод прызначае вялікія сродкі на меліярацыю. Сёлета на меліярацыю прызначана 2 мільярды 20 мільёнаў злотых. Гэтыя сродкі далі магчымасць меліяраваць 132 тысячы гектараў зямельных угоддзяў і 110 тысяч га пашы і сенажацяў. Шмат узраслі і крэдыты, якія прызначае дзяржава сялянам на сельскагаспадарчыя інвестыцыі. Сёлета вёска атрымала 2 мільярды 330 мільёнаў злотых інвестыцыйных крэдытаў і 3 мільярды 500 мільёнаў злотых кароткатэрміновых крэдытаў.

Апрача таго сяляне атрымалі 250 тысяч тон высокаквалі

**(Працяг на стар. 2)**

## БЕЛАРУСКАЙ ФІЛАЛОГІІ 5 ГОД

Ужо пяць год існуе аддзяленне беларускай філалогіі пры Настаўніцкай студыі ў Беластоку. За гэты час звыш 40 вясковых настаўнікаў здабыло тут кваліфікацыі па навучанню прадмета роднай мовы. Існаванне Аддзялення аказвае вялікі ўплыў на безупыннае павышанне ўзроўню нашага школьніцтва на Беласточчыне.

У сувязі з так знамянальнай гадавінай, у нядзелю — 26 лістапада г. г., у будынку нашага Таварыства ў Беластоку адбылася сустрэча студэнтаў з выкладчыкамі і кіраўніцтвам ГП БГКТ. Прынялі ў ёй удзел кіраўнік Аддзялення мгр Янка Радзюкевіч мгр Ада Чэчуга, мгр Лідзія Базылюк, мгр Аляксандр Баршчэўскі, старшыня ГП БГКТ Лідзія Бялецкая і сакратар мгр Уладзімір Юзвюк.

З дакладам выступіў выпускнік Аддзялення Уладзімір Паўлючук.

У заключэнні сустрэчы адбылася танцавальная вечарына.

**(ся)**



**На здымку ўдзельнікі сустрэчы. Фота Г. Рагазінскі**

## ШКОЛА З ВЯЛІКАЙ БУДУЧЫНЯЙ



**Рэдакцыйная калегія радыёгазеты вядзе чарговую перадачу**





**Вучні знаёмяцца з матэрыяламі прысвечанымі гісторыі і геаграфіі Англіі**



**Піянерскі патруль заўважыў непарадкі ў школьнай форме**
**(Чытай на стар. 3 «Школа, дзе жывуць вучні»)**

 

# ШАНЦЫ ЖЭНЕЎСКІХ ПЕРАГАВОРАЎ

Па ініцыятыве Савецкага Саюза 28 лістапада аднавіліся жэнеўскія перагаворы прадстаўнікоў трох вялікіх дзяржаў (СССР, ЗША і Вялікабрытанія) у справе забароны ядзерных выпрабаванняў. З мэтай давядзення перагавораў (якія цягнуцца ўжо з перапынкамі тры гады) да станоўчага выніку Савецкі Саюз унёс кампрамісныя прапановы, якія прадбачваюць неадкладную забарону ўсялякіх даследванняў з атамнымі і вадароднымі бомбамі. Найбольш спрэчнай праблемай у дагэтуляшніх перагаворах былі пытанні кантролю. Цяпер Савецкі Саюз унёс прапанову выкарыстання ў кантролю прылад, якія сёння ўсе дзяржавы маюць і якія пры выкрыцці дагэтуляшніх пробных узрываў здалі экзамен. Каб будучае пагадненне мела моц дакумента, абавязваючага ўсе дзяржавы, якія маюць ядзерную зброю, Савецкі Саюз унёс прапанову, каб у перагаворах прыняла ўдзел таксама Францыя, якая як вядома ў апошніх двух гадах выпрадукавала ўласную атамную бомбу і правяла ўжо 3 пробныя ўзрывы. Выступаючы з новымі прапановамі Савецкі Саюз ажыццявіў рэзалюцыю ААН, якая заклікае атамныя дзяржавы да працягвання дыскусіі на тэму забароны пробных узрываў. Старшыня савецкай дэлегацыі на перагаворах у Жэневе віцэ-міністр Царапкін заявіў ужо ў першы дзень канферэнцыі, што Савецкі Саюз, прапануючы абмежаваныя формы кантролю над ядзернымі ўзрывамі, зусім не адмаўляецца ад прыняцця ўсялякіх іншых формаў кантролю, прапанаваных заходнімі дзяржавамі, калі тыя згодзяцца на прынцып поўнага раззбраення. Гэтая справа мае істотнае значэнне, бо апошнія савецкія прапановы сустрэліся з крытыкай прадстаўнікоў ЗША і Вялікабрытаніі, якія лічаць, што кантроль павінен быць шмат шырэйшы, павінен ахапляць разнародныя пасты і інспекцыйныя групы, размешчаныя перад усім на тэрыторыі СССР. Далікатна гаворачы, заходнім дзяржавам патрэбна ў гэтым выпадку не так дзейсны кантроль, як збор інфармацыі для разведкі. У гэтым усім выразна выяўляецца некансеквенцыя заходніх дзяржаў, а перад усім Злучаных Штатаў, якія яшчэ перад дыскусіяй на тэму забароны ядзерных выпрабаванняў прапанавалі выкарыстанне да кантролю існуючых ужо вельмі дакладных сейсмічных апаратаў і іншых прылад. ЗША аднак хутка ад гэтых прапаноў адказаліся, што таксама кідае праўдзівае святло на мэты прапанаваных імі формаў кантролю.

Цяпер цяжка яшчэ прадбачыць, як пацячэ жэнеўская дыскусія. Той факт, што Францыя яшчэ не дала згоды на запрашэнне да абрадаў, сведчыць аб тым, што яна не хоча адказацца ад атамных выпрабаванняў, а гэта значыць не хоча падпарадкавацца пастанове ААН. Таксама ЗША і Вялікабрытанія не згадзіліся на прапанову ўстанавіць забарону пробных ядзерных узрываў прынамсі на перыяд жэнеўскіх перагавораў. Вось толькі Савецкі Саюз сур'ёзна падышоў да пастановы ААН і зрабіў вялікі крок добрай волі ў напрамку дасягнення пагаднення, якое магло б стацца ў будучыні пачаткам сусветнай дэбаты ў справе поўнага раззбраення.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**

# НІВОДЗІН ГЕКТАР НЕ ПАВІНЕН МАРНАВАЦЦА

**(Працяг са стар. 1)**

фікаванага збожжа на пасеў, што мела непасрэдны ўплыў на павелічэнне ўраджайнасці палёў.

Дзякуючы гэтай выдатнай дапамозе дзяржавы і спрыяльным умовам надвор'я сельская гаспадарка нашай краіны сёлета магла атрымаць так высокія дасягненні.

Пленум прыняў адпаведныя меры дзеля далейшага росту сельгасвытворчасці ў 1962 годзе. План на 1962 год вызначае напрамкі далейшай інтэнсіфікацыі сельскай гаспадаркі. У сувязі з гэтым неабходна пашырыць вырошчванне такіх культур як пшаніцы, ячменю і гароху за кошт менш дахадовых раслін, павялічыць ураджайнасць прамысловых і кармавых культур.

У сельскай гаспадарцы нашай краіны, падкрэслівае пленум, ёсць яшчэ шмат нявыкарыстаных рэсурсаў, якія маглі б непасрэдна прычыніцца да павелічэння сельгасвытворчасці, развязаць праблему пашы і клапатлівага імпарту збожжа. Адной з важнейшых задач у гэтай справе з'яўляецца поўнае выкарыстанне зямлі. План на 1962 год прадбачвае павелічэнне плошчы пасеваў на 100 тысяч гектараў.

Справа выкарыстання аблогаў набірае асаблівага значэння на Беласточчыне. Колькі ж тут яшчэ ёсць пакінутых гаспадарак, зямля якіх гадамі ляжыць аблогам. На гэтай зямлі магла б каласіцца пшаніца, ячмень ці іншыя культуры. Пленум кладзе абавязак на рады народовыя, сельгасгурткі і ПГР — поўнага загаспадаравання гэтых зямель усюды там, дзе толькі існуе такая магчымасць.

Інтэнсіфікацыю сельскай гаспадаркі шмат затрымоўваюць заняпалыя гаспадаркі, якіх яшчэ нямала ў паасобных грамадах.

— Наша краіна, — гаворыцца ў дакладзе, — не мае замнога зямлі, каб дазваляць на марнаванне хаця б аднаго яе гектара.

Частка такіх гаспадарак заняпала з прычыны стыхійных бед, хваробы гаспадара, ці з прычыны недахопу рабочай сілы.

— Такім гаспадарам, — сцвярджае пастанова пленума, — трэба дапамагчы.

Калі грамадская рада пацвердзіць, што даны гаспадар гарантуе рацыянальна выкарыстаць дапамогу дзяржавы, што дзякуючы ёй можа ён павялічыць сельгасвытворчасць, трэба яму прызнаваць крэдыты, спалучаць і пакідаць у завяшэнні яго даўгі перад дзяржавай, а калі гаспадар дзякуючы дапамозе дзяржавы выправіць сітуацыю ў сваёй гаспадарцы, ён можа клапатаць аб частковую або і поўную ліквідацыю даўгоў.

На Беласточчыне, напрыклад, у Сакольскім, Беластоцкім ці Бельскім паветах асабліва шмат такіх гаспадарак. Партыя стварыла магчымасць карэнным чынам змяніць іх сітуацыю. Таму ў працы грамадскіх рад нарадовых справа аздараўлення хворых гаспадарак на сваёй тэрыторыі павінна стацца асноўнай задачай.

Пастанова пленума гаворыць таксама і аб такіх гаспадарах, якія з прычыны старасці не могуць ужо працаваць, і гаспадаркі іх заняпалі. У такіх выпадках могуць яны перадказаць свае гаспадаркі дзяржаве, а ў замен за гэта атрымаць грашовыя пенсіі да канца жыцця. Гэта зусім новая і вельмі справядлівая пастанова. У нас не адзіночныя выпадкі, калі чалавек перапрацаваўшы 50—60 год на гаспадарцы — затраціў здароўе, не мае сіл працаваць далей, а выхаду яму з гэтага становішча не было, бо ён быў уласнікам гаспадаркі. Пастанова ІХ пленума стварыла магчымасць спакойнага жыцця земляробам-старэчам, стварыла сродкі іх побыту. Гэта вельмі гуманная, справядлівая і патрэбная пастанова.

Людзі, якія маюць яшчэ сілы да працы, але з тых ці іншых прычын не маглі належна весці сваю гаспадарку, могуць аддаць яе дзяржаве, а працу атрымаць у ПГР. Час працы на ўласнай гаспадарцы будзе ім улічвацца да атрымання належнай рэнты.

Усе гэтыя магчымасці, якія стварае дзяржава, павінны прычыніцца да ліквідацыі заняпалых гаспадарак, а гэтым самым да павелічэння сельгасвытворчасці нашай краіны, да лепшага жыцця людзей.

Пастанова ІХ Пленума накрэслівае канкрэтныя задачы ў развіцці спулдзельняў прадукцыйных і сельгасгурткоў.

Асноўная задача адносна працы спулдзельняў прадукцыйных — гэта эканамічнае ўмацаванне іх. На базе прымянення навейшай агратэхнікі калектыўныя гаспадарствы ўсё больш будуць ставацца ўзорам гаспадаравання на вёсцы. Пастанова пленума звяртае ўвагу на неабходнасць павелічэння малых калектыўных гаспадарак, коштам прыняцця новых членаў, каб плошча зямлі спулдзельні прадукцыйнай была не меншай чым 100 гектараў зямлі.

**(Працяг на стар. 7)**

## БЕЛАСТОЦКАЯ ХРОНІКА

**27.XI. — Беласточчыну наведала дэлегацыя Брыгад камуністычнай працы з Гродзеншчыны. На працягу чатырох дзён пабыўкі ў нашым ваяводстве, госці пазнаёміліся з Беластокам, а таксама наведалі Замбраў і Гайнаўку.**

*

**27—28.XI. у Беластоку адбылася нарада прадстаўнікоў Аддзелаў будаўніцтва ВРН з усёй краіны. Мэтай нарады было абмеркаванне спосабаў планавання вясковага будаўніцтва ў найбліжэйшых гадах.**

*

**29.XI. — Беласток наведаў пасол Зямлі Беластоцкай намеснік старшыні Савета міністраў — Юльян Такарскі. Мэтай прыезду віцэ-прэм'ера было азнаямленне на месцы з ходам рэалізацыі інвестыцыйнага плана гэтага года ў Беластоку.**

*

**30.XI. — нашу рэдакцыю наведалі ўдзельнікі курса для старшынь гурткоў БГКТ і пазнаёміліся з працай рэдакцыі, а таксама з працай друкарні.**

*

**3.XII. У сувязі з адкрыццём абрадаў V Кангрэса сусветнай федэрацыі прафсаюзаў, які адбываецца ў Маскве (ад 4 да 16 снежня г.г.), у тэатральнай зале прафсаюзаў у Беластоку адбыўся мітынг салідарнасці, на якім прыняла ўдзел дэлегацыя Гродзеншчыны на чале са старшынёй Акруговай камісіі прафсаюзаў у Гродна Фёдарам Масаніным. Удзельнікі мітынгу прынялі рэзалюцыю, а таксама паслалі прывітальную тэлеграму V Кангрэсу.**

*

**Цэлы мінулы тыдзень у кіно «Покуй» у Беластоку дэманстраваўся беларускі фільм «Паручнік Марынін». Фільм выклікаў вялікае зацікаўленне.**




Бэнка застаўся ля рэек чыгункі, а Налепка заспяшаўся да вартаўнічай будкі, што стаяла ля маста.

— Спіце?! — закрычаў ён, але з будкі выбег Дворскі і ўзяў пад казырок.

— Вартуем, пане гаўптман.

З вінтоўкай у руках выйшаў і Мразік. Ён ціха сказаў:

— Загадана не выходзіць, пане гаўптман...

— Я капітан, — адрэзаў Налепка. — Гаўптманамі іншых называйце. А што, каб прыйшлі немцы?

Дворскі пачухаў сябе за вухам і жартаўліва адказаў:

— Немцаў, пане капітан, я адразу па іх подлай хадзе пазнаю. Мы вас бачылі праз акно.

— Сядзіце ў будцы. А калі я два разы стрэлю, адкрывайце агонь па лесе. Пасля адступіце ў поле,

40

да дарогі.

— Нібы перад партызанамі? — кінуў Дворскі.

Налепка паляпаў яго па плячы і нервова агледзеўся.

— Так, нібы перад партызанамі. Увесь манеўр павінен заняць не больш чатырох мінут. Адзін з вас хай прыйдзе адразу паведаміць.

Калі хлопцы вярнуліся ізноў у вартаўнічую будку, Налепка глянуў на гадзіннік і пакрочыў уздоўж чыгункі. На мосце з'явіліся тры постаці. Налепка спачатку заваўтаўся: няўжо гэта яны? А можа немцы? Чакаць не было часу. Зрабіўшы некалькі крокаў, ён закрычаў:

— Стой! Пароль!

— Татра, — адазваўся хрыплаваты бас, і Налепку ад сэрца адразу адлегла. Гэта яны.

— Берлін, — адказаў ён.

Плячысты мужчына ў скуранай куртцы, прыпадаючы крыху на нагу, падышоў да Налепкі і паціху запытаў:

— Рэпкін?

Дзіўна было чуць Налепку сваё новае імя. І прыемна і дзіўна. Яно неяк збліжала яго з капітанам Сытэнка, Бандарэнка і выклікала радаснае хваляванне. Ён паўтарыў нібы рэха:

— Рэпкін.

Налепка паглядзеў на клубок дроту, які трымаў Бандарэнка:

41

— Вы ўжо гатовы?

— Ужо.

Яны абышлі вартаўнічую будку, і Бандарэнка шапнуў Налепку:

— Зброю і медыкаменты мы ўжо атрымалі.

— Што вы зрабілі з тым здраднікам? — спытаў Налепка.

Бандарэнка закашляўся, выпусціў клубок горкага дыму і здзіўлена запытаў:

— З якім здраднікам?

— Ну з тым, якога мае салдаты яшчэ ўчора адвялі да вас.

Сытэнка прабурчаў:

— Да д'ябла! Хіба ён быў ад вас? Бульбаўцы яго перахапілі, нацыяналісты.

Налепка сцяў зубы. Што ж цяпер? Ён гатоў быў рваць валасы на галаве ад злосці, што адразу не разлічыўся з правакатарам, але перад вачыма яго ізноў мільгануў твар Тані. Цяпер сказаць ёй пра ўсё будзе лягчэй.

Ён паглядзеў на гадзіннік. Праз дзесяць мінут пройдзе эшалон.

— Хадзем, — накінуўся ён на Бэнку, нібы хацеў спагнаць на ім усю сваю злосць. — Хутчэй!

Прайшоўшы некалькі крокаў, яны спыніліся. Налепка дастаў з кабуры рэвальвер і стрэліў два разы ўгору. Яму адказалі стрэлы ля маста. Налепка лічыў секунды, і калі Дворскі і Мразік, страляючы,

42



 

